# ЗВЯЗДА

6 сакавіка 1996 г. серада, № 65 (22868)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

## РОЗГАЛАС



5 сакавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі «Камітэта Мід-Амерыка па міжнароднаму бізнесу і ўрадавых сувязях ІНК».

**На здымку:** у час сустрэчы.

### ЗАПАЗЫЧАНАСЦІ ПА ЗАРПЛАЦЕ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ

**Пры выкананні ўказанняў Прэзідэнта па абавязковай выплаце пратэрмінаванай заработнай платы з прыцягненнем рэсурсаў банкаўскай сістэмы Нацыянальны банк прапанаваў камерцыйным банкам у першачарговым парадку разгледзець магчымасць выдачы суб'ектам гаспадарання крэдытаў на пагашэнне запазычанасці па зарплаце па стану на 15 лютага за кошт уласных прыцягнутых рэсурсаў.**

Калі ж у банка не хапае рублёвых рэсурсаў, трэба максімальна выкарыстоўваць міжбанкаўскі крэдыт, часова свабодныя валютныя сродкі, продаж Нацбанку дзяржаўных кароткатэрміновых аблігацый. Пры недахваце ў банка сродкаў Нацыянальны банк таксама гатовы выдзеліць цэнтралізаваныя рэсурсы, якія павінны быць вернуты да 25 сакавіка, пад заклад ліквідных актываў банка.

**Дзмітрый ГРЫВЕНСКІ.**

### НЕЗАВЕРШАНАЕ БУДАЎНІЦТВА: АДСУТНАСЦЬ ПЕРСПЕКТЫЎ?

**Паводле даных упраўлення дзяржаўнага будаўнічага нагляду Мінгарвыканкома, летась з-за нізкай якасці работ было прыпынена будаўніцтва 29 аб'ектаў.**

У асноўным забракоўка была зроблена па мантажу канструкцый (57 працэнтаў) і па цаглянай кладцы (18 працэнтаў). Згодна з указаннямі ўпраўлення нагляду, у 1995 годзе на 84 аб'ектах праводзіўся дэмантаж канструкцый, а на 94 яны былі ўзмоцнены. Вельмі цяжкае становішча застаецца ў галіне незавершанага будаўніцтва. Як паведаміў начальнік буддзяржнагляду Г. Хлебадараў, у мінулым годзе ўпраўленнем было выдадзена 47 прадпісанняў на кансервацыю аб'ектаў будаўніцтва, у тым ліку на 34 жылыя дамы.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### МІНІСТЭРСТВА ГАНДЛЮ РЭСПУБЛІКІ РАСПРАЦОЎВАЕ ДАКУМЕНТ, ЯКІ ПАВІНЕН АБАРАНІЦЬ АЙЧЫННЫХ ВЫТВОРЦАЎ

З мэтай умацавання становішча айчынных вытворцаў і спынення наступлення імпартных тавараў нізкай якасці, а таксама іх нелегальнага ўвозу ў рэспубліку Міністэрства гандлю прыступіла да распрацоўкі «Палажэння аб увозе тавараў з далёкага замежжа, выдачы квот камерцыйным і іншым прадпрыемствам на іх увоз з указаннем асартыменту і аб'ёму».

Паводле звестак міністэрства, доля айчынных нехарчовых тавараў у агульным аб'ёме тавараабароту рэзка скарачаецца. Імпартнай сёння стала кожная пятая пара абутку, кожны другі пачак сродкаў для мыцця, кожная трэцяя бутэлька спіртных напояў. На набыццё імпартных нехарчовых тавараў у прыватнікаў насельніцтва траціць кожны пяты рубель, прычым якасць гэтых тавараў не заўсёды бездакорная.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

### А МТЗ — ЛЕПШ ЗА ЎСІХ!

**12 трактарных заводаў былога Савецкага Саюза аб'яднала створанае таварыства «Трактар». Але гэты саюз аднадумцаў, на жаль, не можа прадухіліць эканамічны спад у галіне. Трактарная прамысловасць развалена, і для яе аднаўлення спатрэбяцца гады.**

Дастаткова сказаць, што толькі па расійскіх заводах, якія займаюцца выпускам трактароў, прадукцыйнасць працы знізілася ў параўнанні з 1986 годам у 11 разоў. Летась было сабрана ў Чэбаксарах — 215, Кішынёве — 975, Уладзіміры — больш за 6 тысяч трактароў, а ў Мінску — 27646 машын маркі «Беларусь», што складае амаль 50 працэнтаў ад усіх выпушчаных у СНД агрэгатаў. Такім чынам, на думку спецыялістаў, МТЗ пакуль трымаецца на плаву.

**Алег ПРАЦЬКО.**

### НА РЫНКУ ПРАЦЫ ЧАКАЮЦЬ ПЕРАМЕН

**Яўная перавага попыту над прапановай назіраецца на рынку працы Міншчыны.**

Лідзіруюць па колькасці беспрацоўных Вілейка, Маладзечна і Салігорск, дзе на адно рабочае месца прэтэндуюць 96, 69 і 59 чалавек адпаведна. У цэлым жа па вобласці звыш 27 тысяч чалавек знаходзяцца на ўліку ў цэнтрах занятасці, частка з якіх атрымлівае дапамогу па беспрацоўю.

**Кацярына ШЫМАНСКАЯ, БЕЛТА.**

## СКАКУНУ Аляксею Сцяпанавічу

Паважаны Аляксей Сцяпанавіч!

У сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння прыміце мае шчырыя віншаванні з выпадку гэтай знамянальнай падзеі ў Вашым жыцці.

Высокія маральныя якасці, дапытлівы розум, усебаковая прафесіянальная падрыхтоўка, шырокі кругагляд, абвостранае ўспрыманне ўсяго новага і перадавога, клапатлівыя адносіны да людзей здабылі Вам заслужаны аўтарытэт, павагу і ўдзячнасць.

Вам, як нікому іншаму, уласцівы лепшыя рысы беларускага селяніна — гаспадарчыя адносіны да зямлі, прыродная кемлівасць, адданасць сельскаму рамяству, веданне сваёй справы, беражлівыя адносіны да прыроды, любоў да роднага краю.

Ваша кіпучая энергія, адказнасць, энтузіязм, настойлівасць, здольнасць правільна расставіць кадры і аб'яднаць намаганні калектыву для вырашэння пастаўленых перад ім задач, уменне бачыць перспектыву і знаходзіць нестандартныя вырашэнні складаных пытанняў, набыты жыццёвы і вытворчы вопыт прадвызначаюць поспех справы. Асабліва поўна гэтыя якасці раскрыліся ў складаных эканамічных умовах апошніх гадоў. Знаходзячыся ў пастаянным пошуку новых формаў гаспадарання і ўмела іх выкарыстоўваючы ў вытворчай дзейнасці, узначальваемы Вамі калектыў і цяпер забяспечвае высокі ўзровень вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі і тавараў народнага спажывання.

Вы належыце да кіраўнікоў новай хвалі, якія здольны працаваць у няпростай цяперашняй абстаноўцы і забяспечваюць сваёй працай адраджэнне нашай сельскай гаспадаркі, яе былых дасягненняў. Ваша праца па заслугах ацэнена высокімі ўзнагародамі Радзімы — ордэнамі Кастрычніцкай Рэвалюцыі і Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі. Вам прысвоена высокае званне «Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь».

У сувязі з юбілеем жадаю Вам, паважаны Аляксей Сцяпанавіч, добрага здароўя, сямейнага шчасця, дабрабыту і далейшай плённай работы на карысць нашага народа.

**А. ЛУКАШЭНКА,**
**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь.**

### У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Пад старшынствам Сямёна Шарэцкага адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Абмеркаваны парадак разгляду пытанняў парадку дня першай сесіі Вярхоўнага Савета ў сакавіку. Дэпутатам трэба будзе прыняць Закон «Аб дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год». Плануецца ўнесці змяненні і дапаўненні ў дзеючае заканадаўства, ратыфікаваць міжнародныя дагаворы, абмеркаваць становішча спраў у аграпрамысловым комплексе.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета — БЕЛТА.**



Навагрудчына. Пачатак вясны 1996-га. Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА.

## СПРАВА ПАДПОЛЬНАГА МІЛЬЯНЕРА КАРЭЙКІ ЖЫВЕ

***Чалавеку з сувязямі ў нашай краіне атрымаць некалькі дзесяткаў тысяч долараў ці эквівалентную суму ў рублях даволі проста. Варта толькі ўважліва прачытаць вядомы твор Ільфа і Пятрова «Залатое цяля», і вы ў чарговы раз пераканаецеся ў праўдзівасці выразу: усё новае — даўно забытае старое. Словам, справа падпольнага мільянера Карэйкі жыве і зараз. Прынамсі на Беларусі за мінулы год было зарэгістравана 296 фактаў выманьвання крэдытаў і датацый. Гэта — адзін з самых распаўсюджаных відаў эканамічнай злачыннасці.***

***Аб тым, як дзейнічаюць «крэдытныя ашуканцы» ў нашай дзяржаве і з якімі праблемамі сутыкаюцца супрацоўнікі праваахоўных органаў пры раскрыцці падобных злачынстваў, карэспандэнт «Звязды» гутарыць са старшым следчым па асабліва важных справах Пракуратуры Беларусі Міхаілам ГАРДЫКАМ.***

**— Міхаіл Уладзіміравіч, якія спосабы выманьвання крэдытаў найбольш распаўсюджаны на Беларусі?**

— Аналіз злачынстваў, звязаных з выманьваннем крэдытаў, паказвае, што «крэдытныя ашуканцы» часцей за ўсё не імкнуцца прыдумваць веласіпед, а толькі ўдасканальваюць, з улікам сучаснага моманту, класічны метад падпольнага мільянера Карэйкі. У прыватнасці, зараз гэта робіцаа гэта наступным чынам: кіраўнікі камерцыйных фірмаў заключаюць паміж сабой фіктыўныя камерцыйныя дамовы аб набыцці якіх-небудзь тавараў. Звычайна гэта так званыя вострадэфіцытныя нафтапрадукты (бензін, дызельнае паліва, мазут) ці прадукты харчавання (алей, цукар і іншыя), імпарт якіх заахвочваецца ўрадам, ды і банкі больш ахвотна выдаюць крэдыты. Атрымаўшы грошы, пазычальнікі знаходзяць прычыну для зрыву дамоўленасці і выкарыстоўваюць крэдыты ў сваіх мэтах. Напрыклад, дырэктар лідскага малога прадпрыемства «Рытм» з мэтай атрымання крэдыту склаў «ліпавую» дамову з ТАА «Фортыс» на набыццё пральных машын. Атрымаўшы ў банку крэдыт у суме 999 мільёнаў рублёў, кіраўнік «Рытма» пералічыў грошы на рахунак «Фортыса», а літаральна праз некалькі дзён грошы вярнуліся на рахунак «Рытма» і былі затрачаны на патрэбы фірмы.

Амаль аналагічную крэдытную махінацыю пракруцілі кіраўнікі мінскіх фірмаў «Кэйры» і «Грэнфіс», якія абавязваліся задаволіць патрэбы беларусаў у алеі.

Другі распаўсюджаны спосаб выманьвання крэдытаў звязаны з выкарыстаннем падробленых дакументаў, пасведчанняў асобы, украдзеных бланкаў і пячатак канкрэтных камерцыйных прадпрыемстваў. Напрыклад, дырэктар маладзечанскага МП «Альфа» дзеля атрымання крэдыту ў банку «Альянс» падрабіў дамову на пастаўку пакавальных машын аднаму прадпрымальніку. Атрымаўшы крэдыт, кіраўнік МП «Альфа» выкарыстаў яго па ўласнаму меркаванню.

Як правіла, крэдытныя ашуканцы не чакаюць, пакуль праваахоўныя органы прыйдуць да іх у офіс ці на кватэру, а, прыхапіўшы з сабою грошы, знікаюць у невядомым накірунку.

Зрэшты, пры існуючай сітуацыі толькі самы гультаяваты ашуканец не здолее уцячы.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— Выманьванне крэдытаў — злачынства вельмі складанае і заблытанае. Для таго, каб перадаць справу ў суд, неабходна правесці дакументальную рэвізію. А рэвізораў у кантрольна-рэвізійным упраўленні не хапае. Таму даводзіцца чакаць. А за гэты час нядобрасумленныя пазычальнікі могуць і знішчыць важныя дакументы, ды і самі з'ехаць у невядомым напрамку. Паспрабуй іх потым знайсці.

Наогул, страты, якія прыносяць крэдытныя ашуканцы, складаюць мільярды рублёў. Але ў працэсе следства толькі па асобных справах прымаліся меры па вяртанню грошай. Адпаведны артыкул Крымінальнага кодэкса не прадугледжвае канфіскацыю маёмасці за гэта злачынства, таму ў працэсе следства, як правіла, уласнасць не арыштоўваюць. Тут патрэбна, каб парламентарыі ўнеслі змены ў Крымінальны кодэкс і дакладна рэгламентавалі б дзеянне праваахоўных органаў у выпадках, звязаных з расследаваннем крэдытных злачынстваў.

Ды і ў судах, наколькі мне вядома, няма адзінства па пытаннях кампенсацыі ўрону, нанесенага ў выніку выманьвання крэдыту. У адных выпадках прадстаўнікі Феміды пры вынясенні прысуду адначасова спаганялі матэрыяльны ўрон, у другіх — адмаўлялі ў іску, матывуючы гэта тым, што падобныя справы знаходзяцца ў кампетэнцыі гаспадарчых судоў.

Напрыклад, дырэктар гомельскай вытворча-камерцыйнай фірмы «Русана» з мэтай выманьвання крэдыту прадставіў у банкі фіктыўны дагавор аб набыцці тавараў народнага спажывання. Але атрыманыя крэдыты выкарыстаў не па прызначэнню, а проста пераверў грошы на рахункі іншых фірмаў. Тым не менш, Гомельскі нарсуд адмовіў банкам у спагнанні з кіраўніка «Русаны» матэрыяльнага ўрону, параіўшы звярнуцца з адпаведным іскам у гаспадарчы суд.

Разам з тым, напрыклад, Маладзечанскі нарсуд, прызнаўшы вінаватым дырэктара МП «Альфа-М» у выманьванні крэдыту, пры вынясенні прысуду спагнаў з ашуканца на карысць страхавых таварыстваў «Кентаўр» і «Дапамога» матэрыяльны ўрон.

Так што, я лічу, і судам трэба, у рэшце рэшт, дакладна вызначыць сваю пазіцыю па пытанню спагнання матэрыяльнага ўрону з крэдытных махінатараў.

Дарэчы, на маю думку, варта таксама ўвесці крымінальную адказнасць за нямэтавае выкарыстанне крэдытаў. Тады, магчыма, ахвотнікаў абдурыць дзяржаву ці камерцыйны банк альбо страхавую кампанію будзе значна менш. А пакуль, відавочна, многія прайдзісветы спадзяюцца, што ім удасца выкруціцца і следства не здолее ўбачыць у іх дзеяннях наўмыснае выманьванне крэдыту. А даводзіць такія справы да суда, як я ўжо гаварыў, і сапраўды даволі складана.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## ФРАКЦЫЯ КАМУНІСТАЎ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ БЕЛАРУСІ ЗАКЛАПОЧАНА СТАНОВІШЧАМ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Фракцыя камуністаў стала ініцыятарам сустрэчы з міністрам адукацыі Беларусі Васілём Стражавым. Народныя абраннікі камуністычнай арыентацыі, а таксама з іншых фракцый вырашылі сам-насам пагаварыць з адказнай асобай аб выкладанні беларускай мовы ў школах.**

Сітуацыя з беларускай мовай, як вядома, увогуле ў рэспубліцы вельмі трагічная. Пасля рэферэндуму пачалося масавае скарачэнне беларускіх класаў, усе дзяржаўныя ўстановы перавялі справаводства на рускую мову. Хаця Закон аб мове ў рэспубліцы ніхто не адмяняў. У дадатак да гэтага быў адменены абавязковы экзамен па беларускай мове ў сярэдняй школе.

З новенькімі кніжкамі Закона аб мове Рэспублікі Беларусь дэпутаты з'явіліся на сустрэчу з міністрам. Якія прэтэнзіі прагучалі ў адрас паважанага міністэрства і асобы, што яго ўзначальвае? Дэпутат Знавец, напрыклад, быў вельмі эмацыянальны і рэзкі ў выказванні сваіх думак. «Вы ведзяце нашу сістэму адукацыі да знішчэння», — катэгарычна заявіў ён міністру. Дэпутат Свірыд праявіў большую лагоднасць. «Мы, беларусы, павінны клапаціцца пра беларускую мову», — далікатна заначыў ён.

Дэпутат Шчукін назваў Васіля Стражава нядобрасумленным чыноўнікам, які пагарджае законам.

Сярод дэпутатаў камуністычнай фракцыі аказалася некалькі настаўнікаў і выкладчыкаў, якія няблага ведаюць сапраўднае становішча з беларускай мовай у школе. Таму адказваць на іх пытанні міністру аказалася вельмі няпроста. Аднак В. Стражаў палымяна пераконваў усіх, каго непакоіць гэта пытанне, што падстаў для трывогі няма, а дзяржава забяспечвае абсалютна роўныя правы для рускай і беларускай моў. У пацвярджэнне гэтага міністр адукацыі плаўна пераходзіў у гаворцы з рускай мовы на беларускую і наадварот.

І ўсё ж такі пільнасць народных выбраннікаў, якія вырашылі стаць на ахову беларускай мовы, міністру не ўдалося прытупіць ніякімі прыгожымі словамі і абяцаннямі. Фракцыя камуністаў беларускага парламента канстатавала, што ў рэспубліцы ажыццяўляецца непрадуманая дзяржаўная палітыка ў адносінах да беларускай мовы.

**Таццяна АНТОНАВА.**

*ДА ВІЗІТУ*

### З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ БЕЛАРУСЬ НАВЕДАЕ ПРЭЗІДЭНТ ЮГАСЛАВІІ

**Прэзідэнт Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Зоран Ліліч з жонкай наведае Беларусь з афіцыйным візітам 6—8 сакавіка.**

У час знаходжання ў рэспубліцы ён правядзе перагаворы з кіраўніком беларускай дзяржавы Аляксандрам Лукашэнкам, Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім, прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром. Прэзідэнт Югаславіі наведае Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне «БелОМА», сустрэнецца з прадстаўнікамі навуковай і творчай інтэлігенцыі. Па выніках візіту будуць падпісаны сумесныя дакументы.

Зоран Ліліч па нацыянальнасці серб, жанаты, мае одно дзіця. Закончыў тэхнолага-металургічны факультэт Бялградскага універсітэта. 12 гадоў працаваў на заводзе «Рэкорд» у Бялградзе. У 1989 годзе назначаны генеральным дырэктарам холдынг-карпарацыі «Рэкорд». Быў адным з самых маладых дырэктараў прадпрыемстваў Бялграда.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

*КРЫК ДУШЫ*

## ЯК БЕЗ ІНСУЛІНУ ДЫЯБЕТЫКУ ПРАЖЫЦЬ?

**Кожны, хто звяртаецца да вас, паважаная рэдакцыя, піша аб сваім набалелым. Вось і я таксама аб сваім.**

Усім вядома, як «лёгка» жывецца зараз пенсіянерам. А калі гэты пенсіянер у дадатак і хворы, тады і зусім «весела».

Але аб сутнасці справы. Я таксама пенсіянерка, хворая на цукровы дыябет, чалавек інсуліназалежны. Гэта значыць, хачу я таго ці не, кожны дзень павінна ўводзіць у арганізм інсулін, каб як-небудзь існаваць. Да таго ж урачы прапісалі мне яго двух відаў: прадоўжанага і кароткага дзеяння. Скажам, апошні мне колюць тры разы на дзень.

Кожны месяц, як і ўсе дыябетыкі, я іду да ўрача, і яна выпісвае мне рэцэпты, па якіх я атрымліваю гэтыя лякарствы ў аптэцы. Але, я ўжо і не памятаю, у верасні ці кастрычніку ўрач «абрадавала» мяне тым, што інсуліну кароткага дзеяння ў аптэцы няма. На пытанне, як мне быць, яна прапанавала замест яго таблеткі «Гілемал». Паколькі іншага выйсця не было, прыйшлося згадзіцца. Так было і ў наступныя месяцы. Думала, што інсуліну няма таму, што заканчваецца год. Але нічога не змянілася і ў студзені.

«Гілемал» дапамагаў мне слаба, і ў крыві стала цукру больш, чым у тры разы вышэй за нормы. Тады ўрач-эндакрынолаг, якая працуе зусім нядаўна, прапанавала мне таблеткі «Глібамід». І вось 22 лютага я зноў на прыёме ва ўрача. Інсуліну як не было, так і няма. А што рабіць? Для дыябетыкаў лекі патрэбны як паветра. Я не гавару ўжо пра «Трэнтал», ліпоевую кіслату. Хоць бы інсулін быў, ці таблеткі, што яго замяняюць.

На пытанне, калі з Магілёва прывязуць лекі, урач адказала, што атрымалі іх дні тры назад, але для дыябетыкаў нічога не прывезлі. Чаму? Хіба дыябетыкі не людзі? Калі спытала, да каго я павінна звярнуцца, яна адказала, што не ведае.

Дык усё ж якія службовыя асобы павінны паклапаціцца, каб у асіповіцкія аптэкі завезлі лекі для людзей, хворых на цукровы дыябет? Калі б я такая была адна, то, падумаеш, адным дыябетыкам на свеце больш, адным менш, невялікая бяда. Але ж нас, такіх хворых, у горадзе і раёне 600 чалавек, і ўсім таксама патрэбны лекі.

Была б у мяне магчымасць наведаць гэтых хворых, і я ўпэўнена: усе яны падпісаліся б пад маім пісьмом. Таму што кожнага з іх моцна трывожыць думка: «Што ж рабіць далей? Да каго звяртацца? Хто нам дапаможа?»

**З павагай**
**Валянціна СЕМЯНЦОВА,**
**інвалід II групы.**
**г. Асіповічы.**

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

### АБ ПАСЛАННІ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ СТАНЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАЙ ЗАКОННАСЦІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ У 1995 ГОДЗЕ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Пагадзіцца з вывадамі, якія змяшчаюцца ў Пасланні Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Прэзідэнту і Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь «Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 1995 годзе».

2. Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін падрыхтаваць прапановы аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты, прызнаныя Канстытуцыйным Судом не адпавядаючымі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь поўнасцю або часткова.

3. Камісіі па заканадаўству з удзелам іншых камісій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь, Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь, Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства, грамадскіх аб'яднанняў, з прыцягненнем навуковых устаноў у трохмесячны тэрмін прадставіць Вярхоўнаму Савету праграму законапраектных работ, маючы на ўвазе прывядзенне заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, агульнапрызнанымі прынцыпамі міжнароднага права і Канцэпцыяй судова-прававой рэформы.

4. Камісіі па заканадаўству і Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню забяспечыць да 1 кастрычніка 1996 года распрацоўку праекта закона аб парадку падрыхтоўкі, прыняцця, уступлення ў сілу і спынення дзеяння законаў і іншых нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь.

5. Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі з удзелам зацікаўленых органаў і асоб у двухмесячны тэрмін разгледзець пытанне аб увядзенні ў Рэспубліцы Беларусь пасады Ўпаўнаважанага па правах чалавека і прадставіць Вярхоўнаму Савету адпаведныя прапановы.

6. Камісіі па заканадаўству з удзелам адпаведных камісій Вярхоўнага Савета разгледзець прапановы, якія змяшчаюцца ў Пасланні Канстытуцыйнага Суда, аб пашырэнні яго кампетэнцыі і пры неабходнасці ў трохмесячны тэрмін прадставіць ва ўстаноўленым парадку Вярхоўнаму Савету праекты адпаведных заканадаўчых актаў.

7. Лічыць неабходным:

у месячны тэрмін прыняць закон, які рэгулюе пытанні выканання рашэнняў Канстытуцыйнага Суда, уключаючы пытанні адказнасці за невыкананне, неналежнае выкананне ці перашкоджанне выкананню гэтых рашэнняў;

у адпаведнасці з артыкуламі 83 і 126 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь правесці давыбары членаў Канстытуцыйнага Суда да 1 мая 1996 года.

Камісіі па заканадаўству з удзелам адпаведных камісій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь унесці ва ўстаноўленым парадку неабходныя прапановы.

8. Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да 1 красавіка 1996 года падрыхтаваць і ўнесці на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пытанне аб тлумачэнні асобных артыкулаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня**
**Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**С. ШАРЭЦКІ.**

27 лютага 1996 г.,
г. Мінск.
№ 89-XIII

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ПАЕСЦІ?

**Спецыялісты-даследчыкі сцвярджаюць, што нават на адной вадзе чалавек можа пратрымацца даволі доўга. А калі яшчэ штодзень хаця б акраец хлеба ў дадатак яму даваць — жыццё наогул малінай можа здацца. Даруй, чытач, за гэты цынізм, але ці не такім выглядае жыццё многіх у нашым грамадстве? На мінімальныя жабрацкія зарплаты, стыпендыі і пенсіі не параскашуеш: хіба толькі батон ды бутэлька малака або кефіру ў дзень. Кавалак масла або мяса — гэта ўжо з галіны ружовых мараў... Безумоўна, знойдуцца сярод чытачоў і людзі, далёкія ад гэтых праблем, якія могуць запярэчыць: маўляў, не можа такога быць. Можа, шаноўныя. Як пражыць месяц на сваю зарплату-пенсію, якая не перавышае 200—300 тысяч рублёў, вясковаму пенсіянеру? А кошт прадуктаў ведаеце?..**

| Назва прадуктаў | Брэст | Віцебск | Гомель | Гродна | Мінск | Магілёў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Паўфабрыкат бяскасцёвы з ялавічыны (кг) | 40.800 | 40.300 | 47.000 | 44.000 | 40.400 | 49.500 |
| Фарш мясны ялавічны (кг) | 28.100 | 27.000 | 33.200 | 29.400 | 28.600 | 34.800 |
| Пельмені (0,5 кг) | 9400 | 12.000 | 12.100 | 11.300 | 11.200 | 12.100 |
| Мяса птушкі (кг) | 26.600 | 24.100 | 25.600 | 27.000 | 26.100 | 25.600 |
| Тварог 9-працэнтны (кг) | 15.400 | 17.500 | -- | 15.600 | 21.600 | -- |
| Сыр цвёрды (кг) | 41.500 | 46.000 | 39.000 | 46.000 | 46.700 | 43.400 |
| Рыба марожаная (кг) | 17.600 | 17.000 | 17.400 | 14.600 | 16.300 | 23.400 |
| Алей (кг) | 20.000 | 18.000 | 25.000 | 23.000 | 17.500 | 20.000 |
| Бульба (кг) | 3700 | 3500 | 3500 | 4000 | 4000 | 2600 |
| Морква (кг) | 3200 | 5000 | 3000 | 4000 | 5300 | 3600 |
| Капуста свежая (кг) | 3000 | -- | 5000 | 4000 | 5000 | 4000 |

**Падрыхтаваў Сяргей РАСОЛЬКА.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету 63850 (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету 63850 (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

Кошт: падпіскі ____ руб.; пераадрасоўкі ____ руб. Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**Шаноўныя чытачы «Звязды»! Нагадваем вам, што ПАДПІСКА на нашу газету на другі квартал 1996 года ЗАКОНЧЫЦЦА 10 САКАВІКА. У вас засталося некалькі дзён. Чакаем вас ва ўсіх аддзяленнях сувязі!**

**Падпісная цана на «Звязду» — самая танная з усіх беларускіх штодзённых газет: 40.800 рублёў на квартал і 13.600 — на месяц. Рабіце свой выбар!**

